**Жыццё змагара за Беларушчыну Сяргея Каваленкі вісіць на валаску. SOS! SOS! SOS!**


**№№41–42
(3580–3581)**

13 сакавіка 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## *Абаронцу Саннікава выключылі з калегіі адвакатаў*

Андрэй Варвашэвіч — ужо другі адвакат, які быў абаронцам былога кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава, а зараз можа быць пазбаўлены ліцэнзіі. Першым адвакатам Саннікава, які пазбавіўся ўжо права на працу, быў Павел Сапелка.

Зразумела, афіцыйна пакаранне ніяк не звязана з тым, што адвакат абараняў "не таго" чалавека. Па словах абаронцы, яго выключылі "за ўчынак, не сумяшчальны са званнем адваката". Андрэй Варвашэвіч мае намер абскардзіць гэтае рашэнне ў судзе, але ніякіх падрабязнасцяў не паведамляе і ад каментарыяў адмовіўся.

**БЛІЦ**

## Ці трэба Беларусі тэрмінова пераходзіць на расійскі рубель?

*Кіраўнік Савета Рэспублікі акадэмік Анатоль Рубінаў публічна заявіў аб тым, што ў мэтах актывізацыі інтэграцыйных працэсаў Беларусі трэба тэрмінова прыняць у якасці адзінай валюты расійскі рубель.*
*Вы згодны з гэтым?*

### Віктар ЦЯРЭШЧАНКА, *экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі, эканаміст:*

— Я катэгарычна з гэтым не згодны. Упэўнены: унутры краіны ёсць уласныя рэсурсы для ўмацавання беларускага рубля. У сваёй перадвыбарнай праграме я акрэсліў шляхі і магчымасці, праз якія можна ўмацаваць айчынную валюту, праўда, наш урад да гэтых прапаноў не прыслухаўся.

На сённяшні дзень грашова-крэдытная палітыка ў Беларусі завязана на нацыянальнай валюце. Адмова ад беларускага рубля і пераход краіны на расійскія грошы прывядуць да канчатковай прывязкі Беларусі да Расіі, і як вынік — Беларусь згубіць суверэнітэт. З гэтым пагадзіцца ніяк нельга.

### Васіль ШЛЫНДЗІКАЎ, *экс-старшыня Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання:*

— Канечне, з гэтым пагадзіцца нельга. І страшна ад таго, што падобныя прапановы гучаць з вуснаў высокіх асоб. Я абсалютна сур'ёзна лічу, што за падобныя прапановы трэба прыцягваць "аўтараў" да крымінальнай адказнасці за здраду Радзіме. Чаму б Генпракуратуры не заняцца гэтым?

А што да пераходу на расійскі рубель, то, на маю думку, няма ніякага сэнсу ў пераходзе з аднаго "фанціка", якім з'яўляецца беларускі рубель, на нейкі іншы "фанцік"... Я ўвогуле лічу, што пераход Беларусі на расійскую валюту — добраахвотная здача беларускага народа ў рабства.

### Юрый АЛЕКСАНДРЫН, *праграміст РУП «Дзяржбудэкспертыза» па г.Мінску:*

— Не згодны. Бо лепш быць незалежнымі жабракамі, чым аўтаномнай акругай Расіі, атрымліваючы фінансавыя падачкі з Масквы. Увядзенне расійскага рубля ў Беларусі прывядзе да таго, што наша краіна стане цалкам залежнай ад волі расійскага кіраўніцтва. А ўлічваючы, што палітычныя стасункі паміж беларускім і расійскімі кіраўнікамі складаюцца па прынцыпе "ад любові да нянавісці — адзін крок", гэта даволі небяспечна. Атрымаўшы рычаг у якасці адзінай валюты з Беларуссю, Расія ў любы момант зможа справакаваць эканамічны крызіс у нашай краіне, куды мацнейшы за тыя, што беларусы ў свой час перажылі...

### Ірына КРЫЛОВІЧ, *эканамічны аглядальнік газеты "Белорусы и рынок":*

— На сённяшні дзень пагадзіцца з гэтым нельга. Мяркую, што ў гэтым пытанні трэба называць рэчы сваімі імёнамі. Калі эканамічную інтэграцыю Беларусі і Расіі разглядаць як чыста палітычны ход, то гэта адно. А калі разглядаць эканамічную інтэграцыю як саюз двух эканамічных суб'ектаў — гэта іншае. Трэба вывучаць як плюсы, так і мінусы эканамічных саюзаў на прыкладзе іншых краін. Гэта глыбокая тэма і праблема, якой ніхто сур'ёзна не займаецца. Як казаў у свой час былы міністр фінансаў Расіі Аляксей Кудрын, аб пераходзе Беларусі на расійскі рубель не можа быць і размовы — няма адпаведных перадумоў. Такіх перадумоў няма і зараз, таму няма пра што гаварыць.

### Юрый БЫЧКОЎ, *інжынер-будаўнік РУП "БелТЭ":*

— На маю думку, чыста з эканамічнага пункту гледжання ўвядзенне расійскага рубля мэтазгодна, бо расійскі рубель мацнейшы за нашы грошы. Але варта разумець, што, калі Беларусь пагодзіцца на такі пераход, мы канчаткова страцім ужо і так амаль страчаную незалежнасць ад Расіі.

Пытанне аб пераходзе Беларусі на расійскую валюту павінна вырашацца не палітыкамі, яно павінна быць вынесена на народны рэферэндум.

### Сяргей ЧАЛЫ, *эканаміст:*

— Не, я з гэтым не згодны. Беларусі гэта нявыгадна нават з пункту гледжання простай эканамічнай тэорыі, у якой напісана, што бязбольна могуць аб'ядноўвацца толькі падобныя адна на адну эканомікі. Тут я маю на ўвазе не толькі тое, што беларуская эканоміка кіруецца з дапамогай адміністрацыйна-каманднага рэсурсу, а расійская працуе як рынкавая. Больш важна, што па сваёй структуры беларускія і расійскія эканомікі працуюць абсалютна па-рознаму. Беларуская скіравана на імпарт, Расія больш экспартуе. Такія эканомікі аб'яднаць нерэальна. Акрамя таго, пераход на расійскі рубель будзе азначаць, што адзіны эмісійны цэнтр будзе знаходзіцца ў Цэнтрабанку Расіі, і гэта паставіць беларускую эканоміку ў яшчэ большую залежнасць ад краіны-суседкі.

**Апытанне праводзіў Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**ГРОШЫ**

## Першая купюра з подпісам Надзеі Ермаковай

Нацыянальны банк Беларусі ў панядзелак прэзентаваў купюру наміналам 200 тысяч беларускіх рублёў, якая з 12 сакавіка афіцыйна ўведзена ў абарот па краіне. На банкноце намаляваны будынак Мастацкага музея імя П.В.Масленікава, які мала вядомы ў Беларусі, паколькі месціцца ў Магілёве.

Пераважнымі колерамі новай банкноты з'яўляюцца зялёна-шэры, карычневы і жоўты.

Вадзяны знак банкноты — арнамент, які імітуе кветку. Новым элементам абароны купюры ад падробкі з'яўляецца галаграма.

Купюра ў 200 тысяч рублёў — першая банкнота, на якой стаіць подпіс кіраўніка Нацыянальнага банка Надзеі Ермаковай.

Купюра, якая з'явілася ў панядзелак, стане самай буйной з тых, што знаходзяцца ў абароце.







### Да ведама

У 2000—2005 гады былі выпушчаны так званыя банкноты ўзору-2000 наміналам 10, 20, 50, 100, 500, 1000, 5000, 10.000, 20.000, 50.000 і 100.000 рублёў. З улікам купюры наміналам 200 тысяч у абароце знаходзіцца 12 тыпаў купюр, выраблены ў адным стылі. У той жа час кіраўнік Нацыянальнага банка раней паведамляла, што плануецца паступовы вывад з абарачэння купюр наміналам да 100 рублёў.

**НАПЯРЭДАДНІ**

## *Чым небяспечны «круглы стол»?*

Старшыня аргкамітэта па святкаванні Дня Волі Уладзімір Колас паведаміў, што атрыманы адмовы ў прадастаўленні памяшкання для правядзення "круглага стала" "Роля БНР у працэсе станаўлення беларускай дзяржаўнасці". На яго, дарэчы, планавалася запрасіць чыноўнікаў з розных міністэрстваў, ведамстваў, навукоўцаў, палітолагаў і журналістаў розных СМІ.

*"Тыя, хто мае канферэнц-залы (найперш гэта гатэль "Вікторыя" і гатэль "Кроўн Плаза"), калі даведваюцца пра мэту канферэнцыі — адмаўляюць. Хаця залы ў іх па папярэдніх перамовах былі свабодныя"*, — расказаў **Уладзімір Колас.**

Арганізатары вымушаны будуць праводзіць мерапрыемства ў штаб-кватэры Партыі БНФ, таму фармат удзелу ў ім значна скарочаны. І ўжо зразумела, што чыноўнікі на мерапрыемства не прыйдуць.

Што ж тычыцца шэсця і мітынгу, якія запланаваны на 25 сакавіка, то заяўка ў Мінгарвыканкам пададзена. Але адказу на яе пакуль няма. Як паведаміў адзін з заяўнікаў акцыі — палітык Віктар Івашкевіч, адказ на заяву, якую яны падалі 23 лютага, ад чыноўнікаў мусіць прыйсці не пазней за 20 сакавіка — за пяць дзён да мерапрыемства.

**САНКЦЫІ**

## Не цісніце!

*11 сакавіка з'явілася сумесная заява ўрадаў Беларусі, Казахстана і Расіі аб недапушчальнасці выкарыстання мер эканамічнага ціску ў дачыненні да Беларусі.*

*"Дзейнічаючы ў духу агульнага падыходу, узгодненага кіраўнікамі дзяржаў Рэспубліка Беларусь, Рэспубліка Казахстан і Расійская Федэрацыя, а таксама з улікам неаднаразовых заява ЗША і Еўрапейскага Саюза аб магчымасці прымянення эканамічных абмежаванняў да адной з дзяржаў-членаў Мытнага саюза/Адзінай эканамічнай прасторы, урады Рэспублікі Беларусь, Рэспублікі Казахстан і Расійскай Федэрацыі пацвярджаюць недапушчальнасць выкарыстання мер эканамічнага ціску альбо прымусу"*, — гаворыцца ў заяве.

Падобныя меры, лічаць аўтары дакумента, *"ствараюць штучныя бар'еры ў гандлі, неабгрунтаваныя перашкоды эканамічнаму ўзаемадзеянню суб'ектаў гаспадарання на тэрыторыі Мытнага саюза, ушчамляюць законныя інтарэсы эканамічнай бяспекі дзяржаў, што наносіць шкоду прадуктыўнаму ўзаемавыгаднаму супрацоўніцтву, развіццю інтэграцыйных працэсаў на еўразійскім кантыненце". "Гэта будзе мець негатыўныя наступствы перш за ўсё для простых грамадзян"*, — гаворыцца ў заяве.

### ДАРЭЧЫ

#### *Міністры замежных спраў краін Еўрапейскага Саюза вырашылі скласці "чорны спіс" беларускіх бізнесменаў.*

Пра гэта заявіў славенскі міністр Карл Эр'явец, які браў удзел у нефармальным саміце ЕС у Капенгагене.

Падчас інтэрв'ю славенскім СМІ міністр паведаміў, што праз два тыдні на чарговай працоўнай сустрэчы кіраўнікоў МЗС будуць абмеркаваны санкцыі ў дачыненні да кіраўнікоў тых беларускіх кампаній і бізнесменаў, *"якія падтрымліваюць рэжым Лукашэнкі".*

Раней была інфармацыя, што менавіта Славенія выступала супраць санкцый да прадстаўнікоў буйнога беларускага бізнесу. На гэты раз міністр удакладніў сваю пазіцыю. *"Мы падтрымліваем санкцыі, каб прадухіліць парушэнні правоў чалавека, але мы павінны забяспечыць паслядоўны падыход, каб эканамічныя санкцыі, калі яны будуць узгоднены, былі эфектыўныя"*, — патлумачыў Карл Эр'явец.

**СТОП-КРАН**

## *«Чорныя» спісы: працяг будзе...*

*У апошнія дні беларуска-літоўскую мяжу без тлумачэнняў прычын не змаглі перасячы апазіцыйныя палітыкі **Анатоль Лябедзька, Аляксандр Дабравольскі, Сяргей Калякін, Віктар Карняенка,** а таксама праваабаронца **Валянцін Стэфановіч**. Спадар Карняенка кажа, што ён будзе дамагацца справядлівасці...*

Па некаторай інфармацыі, Лябедзька, Калякін і Карняенка пазней змаглі патрапіць за мяжу "сваімі шляхамі", прасцей кажучы — праз Расію, але, як кажуць, праблема застаецца. Раней з'явілася неафіцыйная інфармацыя, што апазіцыянеры, якія заклікалі Захад увесці санкцыі супраць Беларусі, патрапілі ў адмысловы "чорны спіс".

— Мы з калегамі кансультаваліся і вырашылі, што будзем адстойваць свае грамадзянскія правы, хоць разумеем, з кім маем справу, — кажа Віктар Карняенка. — Галоўнае зараз — даведацца, так бы мовіць, хто фармальны ініцыятар забароны на перасячэнне мяжы. Для мяне абсалютна зразумела, хто сапраўдны ініцыятар, але ж трэба яшчэ ведаць, на каго канкрэтна падаваць у суд. Думаю, што ў гэтай справе не можа быць нейкіх калектыўных скаргаў, кожны павінен адстойваць свае правы індывідуальна. І я буду гэта рабіць. Хоць знайсці "крайняга" ў гэтай сітуацыі складана — будуць спасылацца адзін на аднаго. Але не ў маіх правілах праглынаць такія рэчы. На гэтым тыдні правяду кансультацыі з юрыстамі і перш-наперш буду звяртацца ў аддзяленне па месцы жыхарства Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі, каб высветліць, што гэта за такое пакаранне прыдумалі — прысутнасць на радзіме.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

### ТЫМ ЧАСАМ

Як заявіў БелаПАН прэс-сакратар Дзяржаўнага памежнага камітэта Беларусі **Аляксандр Цішчанка**, палітыкам, якім было адмоўлена ў выездзе за мяжу, варта асабіста высвятляць прычыны ўнясення ў базу часова невыязных у іншых органах. У першую чаргу — у тэрытарыяльных падраздзяленнях Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС, а таксама ў структурах, якія маюць права ўключаць грамадзян у такую базу.

*"Я не ведаю, хто там ім прастаўляў штампы і хто не прапускаў. У нас няма адпаведнай інфармацыі па гэтым пытанні. Прынамсі, па гэтых фактах мы ніякай інфармацыяй не валодаем"*, — паведаміў "Еўрапейскаму радыё" на Беларусі" начальнік Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС Беларусі **Аляксей Бягун**.

Па яго словах, звяртацца па тлумачэнні неабходна да тых, хто выносіў рашэнне аб абмежаванні права гэтых людзей на выезд. А звяртацца ў Дэпартамент з гэтай нагоды няма сэнсу. Праўда, куды трэба пісаць, Аляксей Бягун патлумачыць не здолеў. І прызнаўся, што пра спісы невыязных апазіцыянераў першы раз чуе ад журналістаў.

### ОТ РЕДАКЦИИ

***Наша соотечественница Светлана Алексиевич, известная во многих странах мира, где широко издаются и увенчиваются почетнейшими премиями ее неординарные, талантливые книги, сейчас завершает работу над новым документально-художественным романом о современной Беларуси. Называется роман "Время second hand (конец красного человека)".***

***Светлана Александровна любезно предоставила нам для публикации фрагмент книги, посвященный трагическим событиям 19 декабря 2010 года, когда власти устроили в самом центре Минска форменное побоище — расправу над мирными гражданами, требовавшими справедливых, честных выборов в стране.***

***Писательница ставит вопрос шире: почему так быстро возрождается у нас сталинская машина и как мы по капле выдавливаем из себя красного человека?***

***Редакция приглашает к разговору на эту тему всех желающих.***



*Светлана АЛЕКСИЕВИЧ*

## Время second hand (конец красного человека)

### *О мужестве и после него*

#### *Хроника событий*

*19 декабря в Беларуси состоялись президентские выборы. Честных выборов никто не ожидал, результат был заранее известен: победит президент Лукашенко, который правит страной уже 16 лет. В мировой прессе над ним смеются, но собственный народ оказался у него в заложниках. Последний диктатор Европы... Он не скрывает своих симпатий к Гитлеру, того тоже долго не принимали всерьез и называли "капральчиком" и "богемским ефрейтором".*

*Вечером на Октябрьскую площадь (главная площадь Минска) вышли десятки тысяч людей, протестуя против недемократических выборов. Демонстранты требовали провести новые выборы без Лукашенко. Мирная акция протеста, переместившаяся на площадь к Дому правительства, была жестоко подавлена спецназом и ОМОНом.*

*Всего было арестовано 700 демонстрантов, среди них — семь экс-кандидатов в президенты, на которых еще распространялась неприкосновенность...*

*После выборов белорусские спецслужбы трудятся день и ночь. По всей стране начались политические репрессии: аресты, допросы, обыски на квартирах, в редакциях оппозиционных газет и офисах правозащитных организаций, изъятие компьютеров и другой оргтехники. Многим из тех, кто сидит в тюрьме на Окрестино и в изоляторе КГБ, грозит от 4 до 15 лет тюрьмы за "организацию массовых беспорядков" и "попытку государственного переворота" (так сегодня белорусская власть классифицирует участие в мирной акции протеста). Опасаясь преследований и укрепления диктатуры, сотни людей бегут из страны...*

*По газетным публикациям.*
*Декабрь—март 2010—2011 гг.*


*(Окончание на 3-й стр.)*

ОФИЦИАЛЬНО

# Детям до 3 лет лекарства будут выдавать бесплатно

Такое решение принял Александр Лукашенко. Инвалиды III группы получат не 30-процентную скидку на лекарства, как предлагал Минздрав, а 50-процентную. При этом — для лечения заболеваний, приведших к инвалидности.

Новость, безусловно, хорошая. Однако есть одно "но". Льготы — категория не постоянная. Сегодня их можно дать, а завтра забрать. Тем более когда средств в государственной казне мало. Ведь именно по этой причине в начале года были установлены новые правила предоставления льготных кредитов на строительство жилья, и число льготников сразу сократилось. Такие примеры есть и в сфере лекарственного обеспечения. Например, больные хроническим вирусным гепатитом С имели право на бесплатные лекарства, а в 2009 году без объяснения причин их этого права лишили.

Стоит отметить, что число белорусов, которые приобретают лекарства по льготным рецептам, после недавнего совещания пополнится приблизительно на 430 тысяч. Детей до 3 лет, которым теперь лекарства будут предоставлять бесплатно по рецепту врача, насчитывается 320 тысяч человек. Инвалидов III группы, получивших право оплачивать половину стоимости медикаментов, — более 130 тысяч.

К СЛОВУ

## *Предпочтение — белорусским лекарствам*

Льготные рецепты, как правило, врачи выписывают на белорусские препараты. Дело в том, что еще в 2009 году в организации здравоохранения за подписью министра Василия Жарко было направлено рекомендательное письмо "О закупках и назначении лекарственных средств отечественного производства", в котором говорилось о необходимости *"принятия дополнительных мер, направленных на ограничение приобретения населением лекарственных средств импортного производства"*. В частности, в письме было сказано: *"При выписывании рецептов на лекарственные средства, имеющие по международному непатентованному наименованию синонимы импортного и отечественного производства, в первую очередь врачом должны назначаться и выписываться по рецептам отечественные лекарственные средства"*. К письму даже прилагалась "подсказка" Минздрава: список на шести листах, в котором были перечислены отечественные аналоги иностранных препаратов. И врачи этой рекомендации Минздрава придерживаются очень строго.

К слову, на совещании Александр Лукашенко потребовал к 2015 году белорусский фармацевтический рынок наполовину обеспечить отечественными препаратами. И то, как угрожающе недоволен он был тем, что сегодня полмиллиарда долларов государство тратит на покупку импортных препаратов, вызывает опасения: белорусские препараты могут резко потеснить из аптек импортные аналоги. И тогда те, кто покупает лекарства за полную стоимость, могут лишиться права выбора, какими таблетками лечиться. А это уже будет как-то по-советски. Нельзя же стричь всех под одну гребенку.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**



# Кто и какие льготы на покупку медикаментов сегодня имеет в Беларуси

*Категория льготников определена Законом "О государственных социальных льготах, правах и гарантиях для отдельных категорий граждан".*

**Бесплатно по рецепту врача лекарственные средства из перечня основных лекарственных средств предоставляются:**

— Героям Беларуси, Героям Советского Союза, Героям Социалистического Труда, полным кавалерам орденов Отечества, Славы, Трудовой Славы;

— инвалидам войны, участникам и инвалидам Великой Отечественной войны;

— лицам, принимавшим участие в составе специальных формирований в разминировании территорий и объектов после освобождения от немецкой оккупации в 1943—1945 годах;

— лицам, награжденным орденами и (или) медалями СССР за самоотверженный труд и безупречную воинскую службу в тылу в годы Великой Отечественной войны;

— лицам, работавшим на объектах противовоздушной обороны, местной противовоздушной обороны, на строительстве оборонительных сооружений, морских баз, аэродромов и других военных объектов в пределах тыловых границ действующих фронтов, на прифронтовых участках железных и автомобильных дорог;

— членам экипажей судов транспортного флота, интернированным в начале Великой Отечественной войны в портах других государств;

— лицам, награжденным медалью "За оборону Ленинграда", и лицам, награжденным знаком "Жителю блокадного Ленинграда";

— неработающим гражданам из числа военнослужащих, принимавших участие в боевых действиях при исполнении служебных обязанностей в Афганистане или в других государствах и получивших ранение, контузию или увечье в период боевых действий. А также военнослужащих автомобильных батальонов, направлявшихся в Афганистан для доставки грузов в период ведения боевых действий, и получивших ранение, контузию или увечье в период боевых действий, и военнослужащих летного состава, совершавших вылеты на боевые задания в Афганистан с территории СССР в период ведения боевых действий, и получивших ранение, контузию или увечье в период боевых действий;

— гражданам, в том числе уволенным в запас (отставку), из числа военнослужащих, лиц начальствующего и рядового состава органов внутренних дел, Следственного комитета Республики Беларусь, органов и подразделений по чрезвычайным ситуациям, органов финансовых расследований Комитета государственного контроля Республики Беларусь, ставших инвалидами вследствие ранения, контузии, увечья или заболевания, полученных при исполнении обязанностей военной службы (служебных обязанностей;

— инвалидам с детства вследствие ранения, контузии, увечья, связанных с боевыми действиями в период Великой Отечественной войны либо с последствиями военных действий;

— детям-инвалидам в возрасте до 18 лет;

— родителям погибших (умерших) военнослужащих при исполнении воинского или служебного долга в Афганистане или в других государствах, где велись боевые действия, а также умерших вследствие ранения, контузии, увечья или заболевания, полученных в период боевых действий. Также родителям военнослужащих, лиц начальствующего и рядового состава органов внутренних дел, Следственного комитета Республики Беларусь, органов и подразделений по чрезвычайным ситуациям, органов финансовых расследований Комитета государственного контроля Республики Беларусь, погибших при исполнении обязанностей военной службы (служебных обязанностей), а также умерших в период прохождения военной службы (службы) вследствие ранения, контузии, увечья или заболевания, непосредственно связанных со спецификой несения военной службы (службы);

— военнослужащим срочной военной службы, военнообязанным, призванным на военные (специальные) сборы, а также суворовцам и воспитанникам воинских частей;

— гражданам, страдающим заболеваниями, входящими в специальный перечень, утверждаемый Правительством Республики Беларусь, — при амбулаторном лечении. Сюда входят, например, онкобольные, больные туберкулезом и т.д.

**90-процентная скидка на лекарственные средства, выдаваемые по рецептам врачей из перечня основных лекарственных средств, предоставляется:**

— инвалидам I и II групп;

— гражданам, заболевшим и перенесшим лучевую болезнь, вызванную последствиями катастрофы на Чернобыльской АЭС, других радиационных аварий.

Недавно Министерство здравоохранения предоставило 5%-ную скидку на отечественные лекарства пенсионерам, инвалидам всех категорий, многодетным семьям, а также семьям с детьми до трех лет. Скидка предоставляется только в том случае, когда покупатель приобретает в аптеке препарат за полную стоимость.

SOS!

## *Сяргей слабее на вачах*



*12 сакавіка з галадоўшчыкам Сяргеем Каваленкам у ізалятары на Валадарскага сустрэлася ягоная жонка Алена. Чарговая спроба ўгаварыць мужа спыніць галадоўку зноў скончылася няўдала.*

Алена Каваленка выйшла з пакоя для спатканняў "Валадаркі" ў слязах. Яна кажа, што Сяргей выглядае яшчэ больш слабым і гэта не дзіва, бо, паводле яе падлікаў, усяго муж галадае ўжо больш за 60 дзён і пакуль спыняць галадоўку не мае намеру: "*Не збіраецца кідаць галадоўку, хаця ўжо выглядае проста жахліва. Вельмі балюча на яго глядзець, бо яму ўжо цяжка і рухацца, і словы вымаўляць. Кожны крок даецца яму з цяжкасцю. Сказаў, што важыць 51 кілаграм, учора яго ўзважвалі. Тэмпэратура цела — 35,2 градуса, гэта вельмі нізкая тэмпература... Мне балюча бачыць, як ён памірае, і сорамна за ўсіх нас, што мы нічога не робім. Мне проста сорамна за нашу нацыю. А ягоныя патрабаванні застаюцца тымі самымі — ён патрабуе вызвалення, бо лічыць сябе невінаватым*".

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**
*(Радыё Свабода).*

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# Рэферэндум! І як мага хутчэй!

Такія патрабаванні прагучалі на сходзе жыхароў дачных масіваў і вёсак, на тэрыторыі якіх запланавана будаўніцтва Беларуска-кітайскага індустрыяльнага парку. 10 сакавіка на сходзе прысутнічала некалькі соцень чалавек. Машыны былі шчыльна прыпаркаваныя на дзвюх дарогах каля садовага каапературыва "Сокал", і даўжыня картэжу складала больш за тысячу метраў.

У адрозненне ад папярэдніх сходаў, якія насілі больш стыхійны характар і на якіх людзі проста абураліся тым, што запланавана будаўніцтва прамысловай зоны на месцы адпачынку гараджан двухмільённага горада, гэты сход прадэманстраваў жаданне людзей выпрацаваць сумесную тактыку дзеянняў. Людзі вырашылі аб'яднацца, каб атрымаць статус грамадскай арганізацыі і мець магчымасць дзейнічаць сумеснымі намаганнямі. Праявілі актыўнасць і жыхары вёсак. Яны таксама вырашылі рэгістраваць свае арганізацыі, каб атрымаць такі ж юрыдычны статус, які маюць садовыя таварыствы. Святлана Каралёва, якая жыве ў вёсцы Быкачына, аднак, вялікіх надзей на плён гэтай ініцыятывы не мае. "Канешне, нам трэба дзейнічаць усім разам, трэба ствараць грамадскія арганізацыі і рэгістраваць іх. Але якія грамадскія арганізацыі ў нас зарэгістравалі за апошнія дзесяць гадоў?" — разважае Святлана.

Валянціна Каляка, якая жыве ў вёсцы Заямнае, распавяла "Народнай Волі", што днямі да іх у вёску прыязджалі прадстаўнікі выканкама. "Усіх не паклікалі, запрасілі некалькі старых бабулек. Затое на сход яны прывезлі з сабой мужчыну, які ўвогуле жыве не ў нашай вёсцы. Пачалі распавядаць, які рай тут будзе, калі кітайцы паселяцца. Мужык таксама пачаў агітаваць за будаўніцтва, але мы яго хутка спынілі, і потым ён ужо сядзеў моўчкі.

Для ажыццяўлення ідэі рэферэндуму на сходзе паставілі дзейнічаць праз дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Генадзя Дзямідчыка і Васіля Люцікава. Хаця народных абраннікаў на сходзе ўвогуле не было, людзі выказваліся ў тым сэнсе, што менавіта дэпутаты павінны дапамагаць выбаршчыкам, дзеля таго іх і выбіралі на гэтыя пасады. Калі дэпутаты адмовяцца падтрымаць ініцыятыву аб рэферэндуме, то дабівацца яго правядзення жыхары раёна маюць намер праз механізм стварэння ініцыятыўных груп.

**Любоў ЛУНЁВА.**

## *Званок дэпутату*

"Народнай Волі" не ўдалося звязацца з дэпутатам Генадзем Дзямідчыкам, а Васіль Люцікаў патлумачыў, што на сход яго ніхто не запрашаў. *"Мяне ніхто не папярэджваў аб сходзе. Пра праблему я ведаю, газеты чытаю, на сходзе не быў. А навошта? Калі трэба, то людзі самі прыйдуць, калі некага нешта цікавіць".*

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Зноў хабар

Сталі вядомыя некаторыя падрабязнасці "гучных арыштаў", якія адбыліся напярэдадні святаў і пра якія "Народная Воля" пісала ў мінулым нумары.

Генеральны дырэктар ААТ "Агат — электрамеханічны завод" **Віктар Прыёмка** абвінавачваецца ў атрыманні хабару за спрыяльнае вырашэнне пытання аб продажы маёмасці завода пабочнай арганізацыі. Пра гэта паведаміў начальнік аддзела інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Следчага камітэта **Павел Траулька.**

У дадзены час Віктар Прыёмка знаходзіцца пад вартай, яму прад'яўлены абвінавачанні па ч.3 арт.430 КК Беларусі (атрыманне хабару), якая прадугледжвае да 15 гадоў пазбаўлення волі с канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады ці займацца пэўнай дзейнасцю. Крымінальную справу расследуе ўпраўленне Следчага камітэта па Мінску.

Падазроным па гэтай справе таксама праходзіць намеснік гендырэктара па камерцыйных пытаннях Алег Ляўковіч. З яго ўзята падпіска аб нявыездзе.

Паведамляецца, што падазроныя былі затрыманы ў момант атрымання хабару ў памеры больш як 6 тысяч долараў.

ПА ЧУТКАХ І...

## *Больш сур'езныя матывы*

Пасля арышту дырэктара ААТ "Агат — электрамеханічны завод" **Віктара Прыёмкі** па Мінску папаўзлі чуткі, што за простай справай аб хабары стаяць больш сур'ёзныя матывы. Нібыта прадпрыемства выстаўляецца на продаж за смешныя грошы. Карэспандэнт "Народнай Волі" паспрабаваў даведацца, ці так гэта?

На дадзены момант прадпрыемства падпарадкоўваецца Дзяржаўнаму ваенна-прамысловаму камітэту. Летась "Мінскі электрамеханічны завод", які ў савецкія часы ў народзе звалі "32-і завод паштовая скрыня", акцыянавалі і пераўтварылі ў ААТ "Агат — электрамеханічны завод". Прадпрыемства спецыялізуецца на вытворчасці, рамонце і рэалізацыі мабільных і стацыянарных комплексаў сродкаў аўтаматызацыі, якія патрэбны для кіравання войскамі і баявымі сродкамі, а таксама сістэм сувязі ваеннага прызначэння. Апроч таго, на заводзе вырабляюць трэнажоры, макеты і імітатары да вайсковай тэхнікі. Нават цяжка ўявіць, што такое прадпрыемства Беларусь захацела некаму аддаць ледзь не задарма.

Але і ў дадзеным выпадку мы маем пацвярджэнне таго, што не бывае дыму без полымя. Хаця насамрэч прадаецца не ўсё прадпрыемства, а адміністрацыйны будынак завода. Ён пабудаваны ў 1972 годзе, мае плошчу 1161 квадратны метр і знаходзіцца практычна ў цэнтры, па вуліцы Валгаградскай, 6. Будынак сапраўды ацэнены не дорага — у 5,3 мільярда рублёў (прыкладна 660 тысяч долараў). Гэта, дарэчы, на 100 тысяч долараў танней, чым каштуе аднапакаёвая кватэра на Кутузаўскім праспекце ў Маскве.

На афіцыйным сайце ўказана, што заяўкі ад жадаючых выкупіць будынак прымаліся да 11 сакавіка. Але начальнік аддзела даследаванняў і прагназавання Валерый Папоў паведаміў "Народнай Волі", што тэрмін падачы заявак падоўжаны да 20 сакавіка. Ён сказаў, што прадстаўнікі шэрагу беларускіх фірм глядзелі будынак, зацікавіліся, але ён пакуль не прададзены.

**Любоў ЛУНЁВА.**

РЭГІЁН

## *Рагачоў просіць вярнуць «Дажынкі»*

Грамадскія актывісты Рагачова пачалі збор подпісаў з просьбай перагледзець рашэнне аб правядзенні фестывалю "Дажынкі-2013" у Гомелі на карысць горада Рагачова, дзе раней планавалася гэтае мерапрыемства.

Як паведамляе БелаПАН, у 2011 годзе ўладамі было прынята рашэнне аб правядзенні "Дажынак" у Рагачове, пра што неаднаразова пісала раённая газета. Прадстаўнікі райвыканкама на старонках мясцовага выдання запэўнівалі гараджан, што дзякуючы фестывалю Рагачоў зменіцца. Чыноўнікі абяцалі, што да "Дажынак" у горадзе пабудуюць лядовы палац, канцэртную залу, стадыён, школу мастацтваў, пашыраць вуліцы, з'явіцца шмат іншых патрэбных сацыяльных аб'ектаў. Аднак 27 лютага на прэс-канферэнцыі старшыня аблвыканкама Уладзімір Дворнік заявіў, што "Дажынкі" ў 2013 годзе пройдуць у Гомелі і гэтае пытанне ўжо ўзгоднена з прэзідэнтам.

*"Дадзенае рашэнне абурыла жыхароў Рагачова, якія чакалі добраўпарадкавання горада, будаўніцтва новых аб'ектаў, бо ў нас слабая інфраструктура",* — сцвярджае Дзяніс Дашкевіч, ініцыятар збору подпісаў.

Паводле яго слоў, на дадзены момант пад зваротам ужо сабрана больш за 100 подпісаў.

СУСЕДЗІ

## *Летась у Літву пераехалі паўтары тысячы беларусаў*

*Сярод замежнікаў, якія прадставілі заяўкі на атрыманне часовага віду на жыхарства, было больш за ўсё беларусаў (1403 заяўкі), расіян (1038) і ўкраінцаў (1040).*

Агулам у 2011 годзе ў Літве выдалі часовы від на жыхарства 3292 замежнікам, гэта на 24,85% больш, чым у 2010 годзе, паведаміў Дэпартамент міграцыі.

У гэты лік не ўваходзяць грамадзяне краін ЕС і члены іх сем'яў.

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

## *Пажар невялікі — наступствы сур'ёзныя*

*Следчы камітэт будзе разбірацца, чаму ў Расонах пакалечыліся дзеці.*

Невялікі пажар у Расонскай сярэдняй школе выклікаў вялікі рэзананс. Шасцёра вучняў 1996—1998 гадоў нараджэння зараз знаходзяцца ў дзіцячай абласной бальніцы з пераломамі пятачных костак, галёнкаступнёвага сустава, чэрапна-мазгавой траўмай лёгкай ступені, ранамі і ўдарамі, дэфармацыяй пазванка. Дзеці пацярпелі не ад агню...

— *Іх стан здавальняючы,* — паведаміў мясцовым СМІ галоўны ўрач бальніцы **Аляксандр Піткевіч**. — *Хлопчыка з пераломам пятачнай косткі прааперыравалі. Дзяўчынак з нязначнымі траўмамі хутка выпішам. Дзяўчынка з пашкоджаннем пазваночніка, на шчасце, сур'ёзных неўралагічных сімптомаў не мае. Толькі болевыя. Месяц ёй прыйдзецца правесці ў ложку, затым яшчэ некалькі месяцаў насіць гарсэт.*

Пажар у школе, як высвятляецца, ліквідавалі за дзесяць хвілін. Загарэлася макулатура, дым запоўніў калідоры, настаўнікі спрабавалі арганізаваць эвакуацыю, але макулатура ляжала якраз там, дзе павінна было быць запаснае выйсце на выпадак надзвычайнай сітуацыі. У выніку разгубіліся і настаўнікі, і вучні. Восем школьнікаў паспрабавалі выратавацца, выскачыўшы з акна трэцяга паверха на дах прыбудовы да сталовай. Настаўнікі нават не заўважылі гэтага. Дзяцей нечакана для себя знайшлі выратавальнікі.

Пасля правядзення пажарна-тэхнічнай экспертызы будзе дадзена канчатковае заключэнне, якое павінна паўплываць на ход расследавання. Прэс-сакратар упраўлення Следчага камітэта па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова паведаміла, што па расонскім факце ўзбуджана крымінальная справа па частцы 2 артыкула 304 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь ("Парушэнне правілаў пажарнай бяспекі, якое пацягнула прычыненне цялесных пашкоджанняў").

**Ігар МАРОЗАЎ.**

РЕЙТИНГ

# Кто из европейских и российских «форбсов» сколачивает капитал в Беларуси?

Самых видных представителей европейского и российского бизнеса, владеющих активами в Беларуси, отыскал в новом рейтинге американского журнала Forbes корреспондент "Завтра твоей страны". Мировых миллиардеров из России, приумножающих капитал у нас, оказалось почти в шесть раз больше, чем европейцев.

Из представленных в Forbes четырех польских миллиардеров бизнес в Беларуси ведет один — банкир Лешек Чарнецкий. Бизнесмен занимает в рейтинге 960-е место. Его состояние оценивается в 1,3 млрд долларов. Часть этих денег Лешек Чарнецкий несколько лет назад инвестировал в покупку небольшого "Сомбелбанка".

Польское присутствие из списка миллиардеров в Беларуси могло быть внушительнее, если бы не отказ самого богатого поляка мира Яна Кульчика (442-е место, 2,7 млрд долларов) строить вместе с "Белэнерго" угольную электростанцию под Зельвой.

Несмотря на то что Германия является одним из крупнейших инвесторов в белорусскую экономику, из немецких миллиардеров Forbes более-менее заметный бизнес в Беларуси ведет производитель линз Гюнтер Фильманн, наладивший производство под одноименным брендом. В рейтинге 2012 года он занимает 464-ю строчку с капиталом 2,6 млрд долларов.

А самым богатым миллиардером из Евросоюза, который имеет бизнес в Беларуси, является сейчас представитель Чехии **Петр Келлнер.** Он занял 110-е место с капиталом 8,2 млрд долларов. В Беларуси его бизнес включает "Хоум кредит-банк", страховую компанию "Генерали", запланирован вывод на белорусский рынок сети магазинов бытовой техники "Эльдорадо", владельцем которой недавно стал Петр Келлнер.

Бизнесмен-угольщик **Зденек Бакала** из New World Resources несколько лет назад выкупил железнодорожный терминал под Брестом. В рейтинге Forbes он на 683-м месте, его состояние — 1,9 млрд долларов. Чехия в итоге занимает первое место по числу входящих в список Forbes своих представителей на белорусской земле.

Наконец, последний представитель в топ Forbes с более-менее серьезными активами в Беларуси — это голландка **Шарлен де Карвальо-Хайнекен,** одна из акционеров мирового пивоваренного концерна. В рейтинге у нее 120-я позиция с капиталом 7,7 млрд долларов, а в Беларуси в собственности лидер местного рынка компания "Пивоварни Хайнекен", объединяющая заводы в Бобруйске и Речице.

Куда как внушительнее по сравнению с европейцами выглядит список российских миллиардеров, владеющих активами в Беларуси. В топ Forbes 29 таких персон.

**Российские миллиардеры из рейтинга Forbes, владеющие бизнесами в Беларуси**

| № | Фамилия | Состояние в млрд долларов |
|---|---|---|
| 28 | Алишер Усманов | 18,1 |
| 41 | Владимир Лисин | 15,9 |
| 45 | Алексей Мордашев | 15,3 |
| 46 | Владимир Потанин | 14,5 |
| 56 | Вагит Алекперов | 13,5 |
| 57 | Михаил Фридман | 13,4 |
| 64 | Виктор Вексельберг | 12,4 |
| 104 | Олег Дерипаска | 8,8 |
| 105 | Герман Хан | 8,5 |
| 110 | Искандер Махмудов | 8,2 |
| 141 | Михаил Гуцериев | 6,7 |
| 141 | Алексей Кузьмичев | 6,7 |
| 146 | Леонид Федун | 6,5 |
| 146 | Сулейман Керимов | 6,5 |
| 166 | Владимир Евтушенков | 6,0 |
| 183 | Виктор Рашников | 5,6 |
| 242 | Филарет Гальчев | 4,4 |
| 248 | Петр Авен | 4,3 |
| 367 | Александр Несис | 3,1 |
| 367 | Игорь Зюзин | 3,1 |
| 601 | Александр Мамут | 2,1 |
| 634 | Данил Хачатуров | 2,0 |
| 719 | Алексей Ананьев | 1,8 |
| 719 | Дмитрий Ананьев | 1,8 |
| 854 | Игорь Макаров | 1,5 |
| 1015 | Николай Саркисов | 1,2 |
| 1015 | Сергей Саркисов | 1,2 |
| 1075 | Олег Бойко | 1,1 |
| 1153 | Максим Ноготков | 1,0 |

ЧУЛІ?

## Невядомы Быкаў

*У Гродне выдадзены матэрыялы з архіва Васіля Быкава, якія раней ніколі не друкаваліся.*

Кніга "Васіль Быкаў. Гарадзенскі архіў" — невядомыя раней творы пісьменніка, нататнікі за 1957—1972 гады — матэрыялы гродзенскага перыяду жыцця Быкава, што захоўваюцца ў малодшага сына пісьменніка.

"Гэта не зборнік невядомых твораў Васіля Быкава ў звычайным разуменні — гэта першае цалкам архіўнае выданне народнага пісьменніка Беларусі, куды ўвайшлі яго раннія творы, напісаныя больш паўстагоддзя таму, што ніколі дасюль не друкаваліся: аповесць, апавяданне, прыпавесці, кінасцэнарый па аповесці "Сотнікаў", а таксама незавершаная аўтабіяграфія, — гаворыцца ў прадмове да выдання. — Тут жа прадстаўлены пераклад на рускую мову аповесці "Апошні баец", які дазваляе выявіць зробленыя падчас першапублікацыі ў 1958 г. у газеце "Чырвоная змена" скарачэнні і такім чынам узнавіць раннюю рэдакцыю першай аповесці В.Быкава. Значную частку кнігі складаюць незавершаныя творы і запісы з нататнікаў, якія сам пісьменнік называў "голымі ідэямі" і якія даюць пэўнае ўяўленне пра "творчую кухню".

Калі ў канцы 1970-х гадоў Быкаў з'ехаў з Гродна ў Мінск, з сабой ён забраў і паперы, але, як высветлілася, шмат што засталося ў Гродне, і пра гэтую частку архіва Быкава практычна ніхто не ведаў. Знайшоў і падрыхтаваў да друку частку матэрыялаў гродзенскага архіва Васіля Быкава па замове "Гарадзенскай бібліятэкі" Сяргей Шапран — вядомы даследчык жыцця і творчасці пісьменніка.

Кнігу "Васіль Быкаў. Гарадзенскі архіў" можна будзе набыць падчас прэзентацый і ў некаторых кнігарнях. Мінскія кнігарні замаўляюць выданне вельмі ахвотна. Першыя прэзентацыі кнігі выдавецкая ініцыятыва "Гарадзенская бібліятэка" плануе ўжо на сакавік.

АБИТУРИЕНТ-2012

## Утвержден график проведения ЦТ в 2012 году

Постановлением Министерства образования утвержден график проведения централизованного тестирования в 2012 году.

Первое испытание — по белорусскому языку состоится 13 июня. Русский язык абитуриенты будут сдавать 14 июня, биологию — 16 июня, математику — 17 июня, обществоведение — 19 июня, химию — 20 июня, всемирную историю новейшего времени — 21 июня, физику — 23 июня, историю Беларуси — 24 июня, иностранные языки (английский, немецкий, французский, испанский) — 26 июня, географию — 27 июня.

Все испытания будут начинаться в 11.00.

Резервный день для проведения централизованного тестирования — 4 июля.

УВАГА!

## Бясплатныя рэпетытары

Бясплатныя заняткі па беларускай мове і гісторыі для вучняў 7—9-х класаў школ Мінска і Мінскага раёна з дасведчанымі выкладчыкамі арганізуе ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны".

Арганізацыйны сход адбудзецца ў пятніцу 23 сакавіка. Пачатак у 18.30 на сядзібе ТБМ (вул. Румянцава, 13, раён метро "Плошча Перамогі").

РЭГІЁН

## У Гродне ўсталююць помнік Максіму Багдановічу

Сярод 20 праектаў перамагла скульптурная кампазіцыя "Вянок" сталічных мастакоў на чале з Леанідам Гумілеўскім.

Пасля дапрацоўкі помнік з'явіцца ў цэнтральным парку імя Жылібера недалёка ад дома-музея Максіма Багдановіча.

Нагадаем, што ў Гродне паэт правёў сваё дзяцінства.

ПОСТАЦІ

# Ваяр!

***Сённяшняя публікацыя — гэта крыху запозненая спроба выказаць павагу нашаму славутаму военачальніку, маршалу, двойчы Герою Савецкага Саюза Івану Ігнатавічу Якубоўскаму, стогадовы юбілей якога павінен быў адзначацца 7 студзеня 2012 года.***



### Дзірка ў календары

Маршал Іван Ігнатавіч Якубоўскі нічым не мог пакрыўдзіць сучасны беларускі ўладны рэжым па той простай прычыне, што памёр больш як 35 гадоў таму, калі цяперашнія паркетныя генералы яшчэ і марыць не маглі аб штанах з шырокімі чырвонымі лампасамі. І тады не зусім зразумела, з якой-такой нагоды праігнараваны стогадовы юбілей знакамітага военачальніка, нашага земляка. Для Беларусі гэта тытанічная асоба ў армейскай сферы. Ён адзін з двух беларусаў, маршалаў Савецкага Саюза, двойчы Герой, і абедзве залатыя зоркі заслужаны ў бранятанкавых бітвах. Быў таксама ўзнагароджаны Зоркай Героя Чэхаславакіі.

### Гістарычная даведка

*Высокае званне, пасля якога павышэннем мог быць толькі тытул генералісімуса, мелі чатыры беларусы. Першым маршалам Савецкага Саюза стаў Васіль Данілавіч Сакалоўскі, потым яго ўзроўню дасягнуў Якубоўскі. Сцяпану Акімавічу Красоўскаму і Івану Іванавічу Пстыгу прысвоілі званне маршалаў авіяцыі, адпаведнае генералу арміі. Для дакладнасці варта падкрэсліць, што Пстыга быў беларусам, але нарадзіўся ў Башкірыі.*

Калі адмаўляюць у адпаведным ушанаванні сусветна вядомаму пісьменніку Васілю Быкаву, калі не жадаюць павіншаваць з 80-годдзем народнага паэта Ніла Гілевіча — прыкра, але хоць разумееш: яны раззлавалі ўладу свабодалюбівымі поглядамі, смеласцю казаць горкую праўду ў вочы тым, у чыіх руках гэтая ўлада.

Як жа маршал трапіў у гэты сумны пералік?

Для простых віншаванняў вялікіх сродкаў не трэба. Шлюць жа словы захаплення самым розным расійскім артыстам, спявачкам, танцоркам, усе сувязі каторых з нашай краінай вымяраюцца грашыма, якія яны ўмеюць заграбаць у свае кішэні падчас гастроляў.

Калі б нешта падобнае здарылася ў савецкія часы, то некаторым гаспадарам кабінетаў прыйшлося б пакідаць іх з рэчамі. Уявіце сабе маштаб скандалу: застаўся незаўважаным (варыянты: забытым, праігнараваным) стогадовы юбілей ураджэнца не Хакасіі, не Чачні, не Якуціі, а Беларусі — маршала Савецкага Саюза Івана Ігнатавіча Якубоўскага. Зразумела, што славуты военачальнік не дажыў да нашых дзён, але ж памяць пра такога чалавека не павінна знікнуць! Тым больш што ідэолагі часта паўтараюць, бы заклінанні, словы пра патрыятызм, гераізм, памяць, пра тое, што ніхто не забыты... І нават дагаварыліся да таго, што гісторыя Беларусі пачынаецца з Вялікай Айчыннай вайны.

Выходзіць, траскатня гэта.

Пачнём з таго, што ў нашай краіне выдаецца толькі адзін каляндар, як некалі пісалі, грамадска-палітычнага, гістарычнага зместу. Яго назва "Родны край", адрукаваны ён на казённыя грошы.

І якая ганьба выдаўцам — у гэтым календары не знайшлося нават трох радкоў пра юбілей Якубоўскага.

Дзіркі ў календары ад правалаў у памяці, ад прабелаў у адукацыі альбо ад нелюбові да роднай гісторыі, зямлі, нацыі?

На старонках афіцыйных выданняў таксама не ўдалося прачытаць згадку пра юбілей маршала. Напярэдадні і ў дні юбілею ў каляндарных рубрыках пералічвалі шахаў і каралёў, замежных спевакоў, маракоў, каго заўгодна...

І тут дзірка.

Заставалася вялікае спадзяванне, што хоць найбліжэйшыя землякі Івана Якубоўскага маюць лепшую памяць і з годнасцю паставяцца да юбілею.

Як ні прыкра, але раённую газету "Горацкі веснік" падзея не зацікавіла. На яе сайце не знайшлося нават прозвішча маршала-юбіляра.

І калі б не публікацыя на сайце gorki.info (раней бы яго назвалі нефармальным, разлічаны ён на жыхароў Горацкага, Мсціслаўскага і Дрыбінскага раёнаў), то землякі маршала ў вачах прыхільнікаў ягонага ваеннага таленту выглядалі б зусім кепска.

Сайт gorki.info змясціў кнігу Уладзіміра Ліўшыца, створаную спецыяльна да юбілею. Калі б не высілкі кандыдата філасофскіх навук, краязнаўцы, былога супрацоўніка Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (цяпер ён пражывае ў Ізраілі), то сораму было б не абрацца. Сораму перад кім? Перад сабой, у першую чаргу, канешне.

А што ж раённыя ўлады? Яны цяпер заняты падрыхтоўкай да чарговага фестывалю "Дажынкі", найвялікшай падзеяй лічаць візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Горкі, асэнсоўваюць яго вынікі і пішуць новыя планы ў святле ўказанняў... Нібыта з прыездам новага старшыні райвыканкама гісторыя раёна пачала новы адлік. Не да юбілею маршала, як бачыце.

### Любімы і легендарны

Дакладна ведаю, што памяць пра славутага земляка ў Горацкім раёне не губляюць. Упершыню трапіўшы ў Горкі, я наслухаўся апавяданняў пра Івана Ігнатавіча Якубоўскага. Так здарылася, што мне пашчасціла пасябраваць з маладымі тады хлопцамі, кіраўнікамі калгаса "Звязда" Уладзімірам Ткачовым, Міхаілам Казючыцам і Валерыем Баграцовым. На землях калгаса і тулілася невялікая вёска Зайцава, дзе нарадзіўся ў 1912 годзе будучы маршал.

Калгас быў невялікім і не меў светлых перспектыў, яго збіраліся далучыць да вучэбнай гаспадаркі акадэміі, а вёска тым больш пачынала паміраць.

Калі аднойчы ў раён спецыяльна прыехаў першы сакратар ЦК КПБ Пётр Машэраў, каб наведаць родныя мясціны славутага военачальніка, то ў Зайцава яго не давезлі. Дарога кепская, у адным месцы мост разламаўся, карацей, глядзець няма чаго. Паказалі Пятру Міронавічу новую ферму ў суседняй вёсцы, і ён паабяцаў пазваніць маршалу ў Маскву, перадаць вестку з родных мясцін.

Для горацкіх людзей Іван Якубоўскі стаў былінным героем. Перадаюцца з вуснаў у вусны расповеды пра тое, як, пасвячы коней па начах, юнакі з вёскі Зайцава спаборнічалі ў сіле, спрыце, кемлівасці. То Іван заўсёды і ва ўсім перамагаў.

З павагай землякі ўспамінаюць бацьку маршала Ігната, селяніна, небагатага, вечнага змагара за пакрыўджаных. Было тое ці не было, але раскажуць і такое. Даўней у беларускіх вёсках вялізным дэфіцытам быў шыфер. Як водзіцца, раёну выдзялялі нейкі фонд, а чыноўнікі размяркоўвалі. Ігнат хадайнічаў за ўсіх вяскоўцаў. "Каму шыфер патрэбны?" — пыталіся чыноўнікі ў бацькі маршала. Ён адказваў: "Мне".

Ну як адмовіш?

Прыязджае ў Горкі сам маршал. Чыноўнікі, паміж іншым, яго папрасілі: скажыце, калі ласка, бацьку, няхай не просіць так часта.

Іван Ігнатавіч нібыта бацьку і кажа: мо паменей прасі. "Не твая, Іване, справа, — адказвае Ігнат сыну, — ты там камандуеш у Германіі сваімі — і камандуй, а ў мае справы не ўмешвайся".

Калі высокага госця землякі (з начальнікаў, зразумела) праводзілі да Мінска, то ён запрашаў іх да сябе ў нумар гатэля і частаваў. Прычым прасіў сваіх падначаленых, каб ніякіх афіцыянтаў і блізка не было. Любіў паламаць каўбасу і хлеб рукамі (па-франтавому), наліць што-небудзь моцнае ў шклянкі і выпіць за родную зямлю.

### За свайго чалавека? Ніколі!

Цяпер цяжка дакапацца, што было праўдай, а што прыдумана. І ў гэтым няма ніякага гора. Іван Якубоўскі сапраўды вялікі герой, яго аўтарытэт не прынізіш ніякімі негеройскімі дэталямі.

Адзін з вяскоўцаў, які некалі пасвіў коней разам з Іванам, хваліўся перад сваімі: "Малайчына Іван, пра нашых не забывае. Паехаў мой сын да маршала ў Маскву пагасціць, дык ён яго частаваў з самых вялікіх бакалаў. А потым на службу (сын быў ваенным) прыходзіць указ аб узнагароджанні госця ордэнам Чырвонага Сцяга".

Вяскоўцы слухалі і верылі: мо і сапраўды так.

Але байцы гэтай веры няма. Родны пляменнік Івана Ігнатавіча, сын Алены, сястры маршала, Максім Максімавіч Якубоўскі падчас падрыхтоўкі публікацыі распавёў, што ягоны славуты дзядзька не цярпеў аніякіх паслабленняў для сваякоў. "Будзеш добра служыць — заўважаць!" — казаў ён пры сустрэчы.

Максім Максімавіч сваю ваенную кар'еру будаваў самастойна. З дзядзькам у сталым узросце бачыўся адзін раз, у ягонай маскоўскай кватэры. Было гэта пасля заканчэння ваеннай акадэміі імя маршала Говарава. Гаспадар распытваў пра родныя мясціны, пра калгас, пра сваякоў.

Высокая пасада не дазваляла часта бываць на радзіме, сустракацца са сваякамі. Іван Ігнатавіч любіў запрашаць блізкіх сваякоў да сябе ў госці. Маці Максіма Максімавіча Алена Ігнатаўна гасцявала ў сям'і брата-маршала, адпачывала, лячылася ў маскоўскіх дактароў.

### Успамінае генерал Варэнікаў

"Внешне он выглядел весьма внушительно. Здоровенный, как Антей, налитый физической силой до предела, а черты лица, как у тяжелого танка. Сидит, кулаки — двухпудовые гири — на стол, и всем своим видом подавляет все, что находится вокруг, — мебель, обстановку. И собеседники становятся игрушечными.

Эта его особенная красота (особенно когда он был в маршальском мундире) некоторых приблизительно равных ему военачальников и государственных деятелей раздражала. Подавляющее же большинство им восхищалось, тем более когда знакомились с ним поближе.

Внешне он был кремень, а душа у него — добрая, щедрая, душа настоящего человека.

Была у Ивана Игнатьевича одна особенная черта. Он почему-то во время отвлеченных от службы рассуждений немножко впадал в своеобразную меланхолию. О птицах он знал много, видимо, с детства был наблюдательным и к тому же перечитал гору книг о пернатых. И мог говорить о них часами, если слушали внимательно, а он это прекрасно чувствовал. Тогда он весь, всей своей махиной, отдавался рассказу о какой-нибудь маленькой пташке, о ее поведении, характере, о возможности приручить. Разбирал ее по перышкам. Даже не верилось, что он, маршал, об этом говорит.

Но когда Иван Игнатьевич, будучи главкомом группы советских войск в Германии, занимался воспитательной работой, тем более когда она касалась кого-то персонально, то он совершенно преображался.

Помахивая пальцем перед лицом собеседника, как поленом, он втолковывал ему понятия, что такое хорошо и что такое плохо, так, как этого не мог сделать никто".

### Другое месца пасля Маргелава

У некалькіх друкаваных крыніцах знайшоў цікавае сцвярджэнне, нібыта маршал Іван Якубоўскі займае другое месца пасля генерала Васіля Маргелава, вядомага камандуючага дэсантнымі войскамі, па колькасці ваеннага фальклору, легенд, баек, прымавак.

Дарэчы, у некалькіх месцах Маргелава называюць таксама ўраджэнцам Беларусі, што няпраўда. Нарадзіўся ён у Днепрапятроўску, а ў 1931 годзе скончыў Аб'яднаную Беларускую ваенную школу, што і спарадзіла блытаніну.

Дык вось, месцы ў фальклорным рэйтынгу расстаўляюць, а за кошт чаго ён, Якубоўскі, стаў такім, не знойдзеш. Біяграфіі военачальнікаў, у тым ліку і Івана Ігнатавіча, выкананы ў строгім савецка-прапагандысцкім стылі, за якім цяжка разгледзець чалавека.

Пытаюся ў свайго сябра, афіцэра Уладзіміра Грыбанава, які ў свой час служыў у Германіі, ці памяталі там у афіцэрскім асяроддзі былога камандуючага, ці расказвалі нейкія легенды. Адну байку Уладзімір узгадаў, яна, дарэчы, у нечым пераклікаецца з успамінамі Варэнікава.

*Калі Івану Ігнатавічу даводзілася выхоўваць афіцэра, што перабраў у выпіўцы, то ён любіў паўтараць: "Меры не ведаеш! Усе мы ў вашым узросце, бывала, прымалі на грудзі. Не без таго. Выпіў грамаў чатырыста-пяцьсот — ідзі ў клуб, патанцуй, чаго валочышся дахаты скандаліць?!"*

У гэтай байцы няма нічога абразлівага. І яна таксама падкрэслівае неверагодную сілу і вынослівасць славутага военачальніка.

У дадатак да ўспамінаў пра любоў да пярнатых варта ўзгадаць і любоў Івана Ігнатавіча да лесу, да прыроды. Яго жонка Зінаіда Фёдараўна, ураджэнка Аршанскага раёна, успамінала, што, дзе б ім ні даводзілася пражываць, усюды: у Германіі, у Львове, у Падмаскоўі — Іван Ігнатавіч каля дома заўсёды высаджваў тры бярозкі і даглядаў іх.

Так здарылася, што салдат тэрміновай службы Валакіцін з Горацкага раёна трапіў у каманду, якая абслугоўвала маршальскія дачы. Ён расказваў, што маршал дасканала цікавіўся, як правільна абразаць пладовыя дрэвы. Вельмі любіў антонаўку.

### Прыезд маршала на радзіму

Міхаіл Казючыц: **"Вёска Зайцава і была невялікай, а зараз там засталіся тры хаціны. Я застаў родную сястру маршала Алену Ігнатаўну, пляменнікаў Аркадзя і Аксану. Аксана працавала санітаркай у медпункце, Аркадзь трактарыстам. На вялікую дапамогу з боку калгаса яны ніколі не прэтэндавалі, не хацелі выдзяляцца. Мо калі дроў прасілі, калі трактар, машыну — і усё. Калі б наш тагачасны старшыня калгаса Мяжэнін быў кемлівым, то можна было б выкарыстаць армейскую сілу ў развіцці калгаса, вёсак. Хаця і так грэх скардзіцца. Па калгасным запыце з войск прыйшлі тры новыя аўтамабілі, два, як іх звалі "козлікі", будаўнічыя матэрыялы. А потым маршал запрашае сястру ў госці, маўляў, няхай старшыня калгаса прывязе ў Маскву. А ў старшыні калгаса няма часу. У маршала ёсць, а ў старшыні няма!**

Алена працавала ў паляводстве, на ферме.

У час нашай працы ў калгасе Іван Ігнатавіч прыязджаў на радзіму разам з Пятром Міронавічам Машэравым на адкрыццё музея польска-савецкага братэрства ў пасёлку Леніна. Візіт быў афіцыйным. Новы старшыня калгаса Уладзімір Ткачоў падвёў да высокага госця сястру Алену, сама яна пасаромелася б. Маршал абняў яе, пацалаваў і запрасіў прыязджаць у Маскву, бо ў той момант яму з першым сакратаром ЦК трэба было некуды неадкладна ехаць.

У той вечар Алена Ігнатаўна частавала нас у сваёй хаце рознымі прысмакамі, якія брат прывёз для яе з Масквы.

### Татарскі казус

У газеце "Ватаным Татарстан" быў надрукаваны артыкул, змест якога не мог не здзівіць. У ім сцвярджаецца, што маршал Іван Якубоўскі нарадзіўся ў татарскай вёсцы і з'яўляецца нацыянальным героем Татарстана. А да беларусаў яго далучылі таму, што маршальская жонка родам з вёскі Зайцава Горацкага раёна. А калі б яшчэ псеўдадаследчыкі ведалі, як "адсвяткавалі" ў Горацкім раёне стогадовы юбілей героя, то іх прэтэнзіі набылі б яшчэ большую сілу.

### І толькі камуністы не забыліся

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што памяць маршала Івана Якубоўскага была ўшанавана ў Фрунзенскім раёне Мінска стараннямі арганізацыі Камуністычнай партыі Беларусі. У сталіцы ёсць вуліца імя Якубоўскага, на ёй усталяваны бюст двойчы Героя. У дзень стогадовага юбілею сюды прыйшлі прадстаўнікі ЦК КПБ, адміністрацыі Фрунзенскага раёна, ветэраны вайны. Прысутнічаў на кароткай урачыстасці і пляменнік маршала Максім Якубоўскі з сынам.

Мітынг у вызначаны час не пачыналі, арганізатары чакалі дэлегацыю ваенных. Яна з'явілася, але пазней, калі пачаўся мітынг. Ветэраны засталіся незадаволенымі такой непавагай.

У заключэнне застаецца дадаць, што Іван Ігнатавіч завяршыў удзел у Вялікай Айчыннай вайне ў званні генерал-маёра. У пасляваенны час ён займаў пасады камандуючага Кіеўскай ваеннай акругай, галоўнакамандуючага групай савецкіх войск у Германіі, першага намесніка міністра абароны СССР, галоўнакамандуючага войскамі краін Варшаўскага дагавору. Памёр І.І.Якубоўскі ва ўзросце 64 год. Пахаваны каля Крамлёўскай сцяны.

**Мікалай АЧЫЖА.**

## З БІЯГРАФІІ

За два гады да Першай сусветнай вайны ў сям'і беларускага селяніна Ігната Лявонавіча Якубоўскага нарадзіўся сын Іван. Нічым не вылучалася нараджэнне яшчэ аднаго, шостага дзіцяці ў нізенькай чатырохсценнай хаце, асабіста зрубленай і пакрытай саломай яго бацькам, нязменным пастухом сяла Зайцава Горацкага павета на Магілёўшчыне.

Маці, Акуліна Андрэеўна, сканала ў сямнаццатым. Хатнія клопаты аб вялікай сялянскай сям'і леглі на плечы жонкі старэйшага сына Мікіты, Агаф'і Захараўны, якая нямала бескарысліва папрацавала для выхавання дзяцей. Калі зірнуць наперад, немагчыма абысці маўчаннем двух братоў Якубоўскага — радавога Аляксандра, загінуўшага ў баях у сорак першым, і Кірыла, камісара палка, загінуўшага ў сорак другім у баях пад Ржэвам. У 1944 годзе за сувязь з партызанамі гітлераўцы расстралялі Агаф'ю Захараўну разам з дваццацігадовай дачкой Аксінняй. Чатыры трагічныя смерці толькі на адну сям'ю простых беларускіх сялян!

Першы клас школы супаў для малодшага сына сям'і Якубоўскіх з першым мірным годам пасля грамадзянскай вайны. Увосень у палатнянай кашулі, у лапцях, з букваром хлопчык адпраўляецца ў школу. 10 кіламетраў кожны дзень у адзін канец з акрайцам аржанога хлеба, у любое надвор'е...

Сем класаў скончаны. Сям'я ледзь-ледзь перабіваецца з хлеба на квас. Бацька пагаворвае: "Ці не пара канчаць, Ваня?"

У трыццатым сяло стала калгасным. У 17 гадоў камсамолец Іван Якубоўскі абіраецца сакратаром куставой ячэйкі Макар'еўскага сельсавета. Не адразу ўсталявалася калгаснае жыццё. Але год за годам яно паляпшалася. Моладзь пацягнулася да вучобы. У большасці сялян скураных ботаў не было. Абутак здабываўся ў лесе. З лыка плялі лапці. У такім абутку Іван Якубоўскі прыйшоў у павятовы горад Горкі і здаў дакументы ў найстарэйшую Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію.

"Не атрымалася ў мяне вывучыцца на агранома, і не таму, што я не мог бы здаць прыёмныя іспыты, — успамінаў маршал, — добра прайшоў я па фізіцы і хіміі, і, магчыма, усё было б па-іншаму, ды падаспелі іншыя справы. Жыццё было цяжкае. Прыйшлося пайсці працаваць на цагельню. Пазней райкам камсамола паслаў мяне на вучобу ў Оршу, у педагагічны тэхнікум, і я рыхтаваўся стаць настаўнікам. Прайшло два гады. Мяне, у той час кандыдата партыі, выклікалі ў райкам і паведамілі хвалюючую вестку пра тое, што пасылаюць у войска, што ёсць рашэнне пра ўмацаванне армейскіх шэрагаў партыйнымі камандзірскімі кадрамі. Прайшоў адборачную і медыцынскую камісіі, а на мандатную паехаў у Мінск. Можаце ўявіць маё здзіўленне, калі я нечакана ўбачыў за сталом камісіі героя грамадзянскай вайны С.К.Цімашэнку. Ну, думаю, калі сам Цімашэнка прыехаў, значыць, важная справа. Прыўзняты настрой змяніўся сумневам — раптам не падыду? Аднак падышоў. На камісіі мне сказалі, што педтэхнікум прыйдзецца пакінуць і пайсці ў Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію".

Якубоўскага залічаюць у Аб'яднаную Беларускую ваенную школу імя М.І.Калініна. Добрасумленна, зацята авалодвае ён першапачатковымі ведамі ваеннай прафесіі. Малады курсант становіцца прыкметны нават вонкава — у яго выдатная выпраўка, высокі рост, гнуткае, мускулістае і стройнае цела. Яго лічаць лепшым спартсменам.

Як выпускніку, які скончыў школу з адзнакай, Якубоўскаму было дадзена права выбару месца службы. Месца магло быць любым, а вось з родаў войскаў ён абраў артылерыю. Малады камандзір прыязджае ў 27-ы артылерыйскі полк, які ўваходзіў у склад 27-й Омскай Чырванасцяжнай імя Італьянскага пралетарыяту дывізіі, дыслакаванай у Віцебску, якой камандаваў вядомы военачальнік, кавалер чатырох ордэнаў Чырвонага Сцяга С.С.Вастрацоў, а затым К.П.Подлас. Кіраўніцтва дывізіі ўлічвае добрыя якасці выпускніка-выдатніка, выкладзеныя ў характарыстыцы, і прызначае яго камандзірам вучэбнага ўзвода. У яго ў падначаленні 35 чалавек. На ўзбраенні — чатыры 122-міліметровыя гаўбіцы. Камандзір дывізіёна Кабатчыкаў дае выдатную характарыстыку маладому камузводу, адзначае трывалыя веды, патрабавальнасць і да самога сябе, і да байцоў і яго педагагічную жылку. Неўзабаве ўзвод выходзіць на першае месца ў палку і дывізіі.

Якубоўскага накіроўваюць на Ленінградскія Вышэйшыя Чырванасцяжныя бранятанкавыя курсы ўдасканалення камандзіраў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі. За сем напружаных месяцаў ён авалодвае майстэрствам кіравання танкам, мастацтвам стральбы і кіравання танкавымі падраздзяленнямі.

У 23 гады ў 16-й легкатанкавай брыгадзе Якубоўскі камандуе танкавым узводам, а затым ротай вучэбна-танкавага батальёна. З гэтага часу яго страсцю, яго клопатам, радасцю і горам, яго жыццём становіцца цесная скрынка баявой машыны. У трывожны час ішло станаўленне будучага маршала. Узброены канфлікт з Фінляндыяй. Жорсткая зіма, снегапады. Якубоўскі камандуе танкавай ротай. Ён пашырае свой камандзірскі далягляд.

А потым прыйшоў дзень 22 чэрвеня 1941 года. Іван Якубоўскі — камандзір танкавага батальёна, затым танкавага палка 26-й танкавай дывізіі. Цяжкія баі за Мінск, Магілёў на Заходнім фронце. Ён праяўляе асабістую адвагу і ініцыятыву. Пазней на пасадзе камандзіра палка і намесніка камандзіра 121-й танкавай брыгады ўдзельнічае ў баях на Бранскім і Паўднёвым франтах. Абараняе Маскву. Удасканальваюцца камандзірскія якасці І.І.Якубоўскага: разумная адвага, ваенная хітрасць, спрыт, здольнасць хутка вырашаць у складаным становішчы баявыя задачы.

Увесну 1942 года Іван Ігнацьевіч прызначаецца камандзірам 91-й асобнай танкавай брыгады, якая пачынае фарміравацца ў сакавіку. 20 чэрвеня накіроўваецца на Паўднёва-Заходні фронт. Там рэзка пагоршылася становішча, і нашы войскі, стомленыя баямі, змушаны былі адыходзіць.

Брыгада перакідваецца ў Валаконаўку. Ёй было загадана заняць абарону і прыкрыць 169-ю стралковую дывізію 28-й арміі, якая адыходзіла на ўсходні бераг Аскола.

Забяспечваючы адыход стралковых часцей, брыгада вяла бой з адкрытымі флангамі, бо суседзяў побач не аказалася, што вельмі пагаршала становішча. На вузкім участку танкісты стрымлівалі націск гітлераўскай дывізіі, увесь час падвяргаючыся ўдарам варожых бамбардзіроўшчыкаў.

1 ліпеня праціўнік правёў магутную бамбардзіроўку з пікіравання і пад штармавым накатам артылерыйскага агню ажыццявіў камбінаваны напад пяхоты і танкаў. Але варожыя машыны наткнуліся на міннае поле, закладзенае ўначы мотастралкамі, павярнулі і падставілі свае барты пад прыцэльны агонь нашых процітанкавых гармат і бранябойшчыкаў. Савецкія байцы не здрыгануліся, падпусцілі машыны ворага бліжэй і з карысцю прымянілі сваю зброю. Танкі гарэлі. Гітлераўцы выклікалі авіяцыю і працягвалі напады.

Падаспела выпрабаванне цвёрдасці духу. Мужна змагалася маладая брыгада, не зрабіўшы ні кроку назад. Батарэі біліся да апошняга снарада, мотастралкі кідаліся ўрукапашную. Былі моманты, калі танкі саперніка даходзілі да каманднага пункта.

Вынік першага бою — доўгі спіс загінуўшых байцоў. У наступныя сутычкі з ворагам брыгада ішла, акрыленая цяжкімі першымі поспехамі, верачы ў свае сілы. Але ўсё больш мужнасці патрабавалася для барацьбы з захопнікамі. Журботныя весткі даходзілі на жмутках паперы і па правадах палявой сувязі. Да канца дня амаль цалкам загінулі ўсе баявыя разлікі процітанкавых гармат. Быў забіты камандзір батарэі лейтэнант Цімафей Міхайлавіч Слабажанінаў і амаль усе падпарадкаваныя яму камандзіры. Напалову парадзеў мотастралкова-кулямётны батальён. Смерцю адважных загінуў яго камісар палітрук Уладзімір Пятровіч Царкоў, цяжка паранены камбат маёр Сава Паўлавіч Каталкін.

Такі бой маглі вытрымаць людзі, змацаваныя не толькі адной дысцыплінай. Многія з тых, хто ўпершыню ўбачыў тварам да твару ворага і бляднеў пры першых бомбах, сталі героямі. Камандзір брыгады праяўляў моцную волю, стрыманасць, уменне і досвед. Ён давяраў байцам не менш, чым яны давяралі яму. Бясспрэчна выконваліся ўсе яго каманды. Усе ведалі: камбрыг разам з імі, побач камандуе, значыць, верыць у перамогу...

...Першая Зорка Героя Савецкага Саюза ўвянчала ратную працу чалавека, які дзень і ноч, суткі і месяцы праводзіў або ў танку, або на бронетранспарцёры ці ў самаходцы, або на вёрткай штабной машыне. Ён еў з агульнага катла, спаў пад брызентам, саграваючыся яшчэ захаваным пасля бою цяплом танка. На ім часцей быў скураны шлем, чым фуражка, і напагатове пісталет, пара "лімонак" на ўсялякі выпадак і аўтамат з падрыхтаваным дыскам.

...23 верасня 1944 года абвясцілі Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. П.С.Рыбалка на тым жа Сандамірскім плацдарме ўручыў І.І.Якубоўскаму другую Залатую Зорку. Апошні акт вялікай бітвы. Ізноў рэйд. Наперадзе — Берлін! Якубоўскаму прысвоілі званне генерал-маёра. Ён — намеснік камандзіра 7-га гвардзейскага танкавага корпуса. Корпус рыхтуецца да штурму Берліна. Адным з арганізатараў імклівага прасоўвання танкавых часцей на Берлін з поўдня быў генерал І.І.Якубоўскі.

Вюнсдорф! Адзін з мноства нямецкіх гарадкоў. Якубоўскі тут ненадоўга. Асабістая праверка часцей корпуса, сустрэча з камандзірамі, удакладненні, пажаданні. Вюнсдорф абстрэльваецца. Выпадковы снарад узрываецца блізка ад Івана Ігнацьевіча. Шафёр звяртае ўвагу — падраны бот, шмат крыві. Машына спынена. Генерал спрабуе ўстаць, але не можа. Яго вязуць у палявы шпіталь...

*("Біяграфіі. Гісторыя жыцця вялікіх людзей".)*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
13 САКАВІКА 2012 г.

АСОБА

## *Марыя ЗАХАРЭВІЧ,*
## *народная артыстка Беларусі:*

# «Добра, калі ў новым тэатры застанецца купалаўскі дух...»

*Не так даўно адна з самых вядомых актрыс Купалаўскага тэатра Марыя Захарэвіч стала ганаровай грамадзянкай Мінскай вобласці.*
*Якія бонусы дае гэтае званне?*
*І чым цяпер жыве актрыса, якая напрыканцы мінулага года адсвяткавала 75-гадовы юбілей?*
*Пра гэта яна сама распавяла "Народнай Волі".*

— Я не пыталася, але мне сказалі, што гэта проста ганаровае званне — хадзі і ганарыся! Ніякіх бонусаў, здаецца, яно не дае, — *распавядае пра ўзнагароду Марыя Георгіеўна.* — Гэтак жа прыкладна, як і званне народнага артыста. Ну што яно цяпер дае?

**— Да нядаўняга часу, калі не памыляюся, 100 тысяч даплачвалі. Але цяпер гэта проста капейкі...**

— А ў савецкія часы, напрыклад, давалі бясплатныя пуцёўкі ў санаторыі. Прычым кожны год! Праўда, я імі не карысталася, бо маму глядзела. Яшчэ для народных 50-працэнтная зніжка была па аплаце кватэры і яшчэ бясплатны праезд. Цяпер усе гэтыя льготы знялі. Засталася толькі "лечкамісія" — яе паслугамі могуць карыстацца не толькі народныя артысты, але і заслужаныя. Гэта таксама немалаважна — можна трапіць да доктара без чаргі.

А званне мне ўручалі ва ўрачыстай абстаноўцы ў пасёлку Чысць — там новы Палац культуры пабудавалі — цудоўны, проста цудоўны, мне вельмі спадабаўся! Дарэчы, разам са мной ганаровым грамадзянінам Мінскай вобласці стаў Міхаіл Фінберг — ён з аркестрам якраз там канцэрт даваў. Перад канцэртам нас выклікалі на сцэну, павіншавалі. Я б, канешне, не адмовілася ад нейкіх бонусаў у дадатак да звання, калі яны ёсць, але і без іх пражыву.

**— Відаць, цяжкавата даводзіцца — заробкі ў тэатры не надта вялікія.**

— Канешне, але і тэатру няпроста, мы літаральна выжываем. Ля Дома афіцэраў, калі граем там спектаклі, кожны раз дзяжурыць машына Міністэрства па надзвычайных сітуацыях —



прыкладна два мільёны ім аддаем — і за арэнду пляцоўкі плацім: агулам атрымліваецца каля 9 мільёнаў. Дык колькі там тэатру застаецца? Калі спектаклі ідуць на сцэне Палаца прафсаюзаў, дык трохі танней абыходзіцца, але ўсё роўна...

А наш тэатр разбурылі. Хто мог падумаць, што так будзе? Сцэну прыбралі. І там, дзе дух нашых купалаўцаў яшчэ жыў, сцежкі-дарожкі, лесвічкі, па якіх усе хадзілі, — усяго гэтага ўжо няма. Але што зробіш...

**— Затое абяцаюць, што атрымаеце суперсучасны тэатр, сцэну...**

— Гэта будзе ўжо ўсё новае. Еўратэатр. Добра, калі застанецца ў новых сценах купалаўскі дух, дай Бог...

**— У наступным годзе, калі нічога не памяняецца, вашы цяжкія блуканні па чужых сцэнах скончацца.**

— Акцёрам яшчэ туды-сюды: тое, што няма прыстанку, сваёй грымёркі, гэта часова і перажыць можна. А вось касцюмерам і іншаму персаналу, якім прыходзіцца цягацца з усімі рэчамі, канешне, не пазайздросціш.

**— Але ж нават і ў такіх цяжкіх умовах у вас прэм'ера — якраз у пятніцу Аляксандр Гарцуеў прэзентуе гісторыю кахання "Людзі на балоце".**

— Так. І галоўнае, што адгукаецца глядач!

**— А вы самі не скардзіцеся на недастатковую запатрабаванасць, адсутнасць роляў?**

— На гэты момант мне дастаткова: я іграю ў "Паўлінцы", драме "Не мой" па Адамовічу, з Наталляй Гайдай у нас трагікамедыя "Я не пакіну цябе". Так што ў лепшыя часы іншы раз не было больш роляў (я не кажу пра зусім маладыя гады, а пра апошнія, калі не мела дзевяць гадоў новых роляў). Прафесія акцёрская вельмі залежная: захоча так званы рэжысёр — дасць ролю, не захоча — не дасць. Але мяне неяк выратавала Маладзечна — я на сцэне Мінскага абласнога тэатра тры спектаклі паставіла.

**— Можа, у планах ёсць новыя нейкія рэжысёрскія задумы?**

— Калі весці гаворку пра маладзечанскую сцэну, то гэта вельмі складана. Я вось зараз думаю: як я ездзіла туды! У сем гадзін — на электрычку, дамоў вяртаешся недзе ў восем вечара, падчас начавала там у грымёрцы — так мне хацелася нешта зрабіць. Цяпер, думаю, ужо нізашто не зрабіла б!

**— Дык можа, на мінскай сцэне спектакль паставіце? Ці з рэжысёрствам ужо завязана?**

— Калі будзе добрая п'еса, можа, нешта і зраблю. Але без працы я не сяджу: шмат запрашэнняў і ў бібліятэкі, на розныя сустрэчы — я вершы чытаю, з літаратурай дагэтуль сябрую. Абы Бог даў здароўя... На дадзены момант гэта самае галоўнае...

### АФІЦЫЙНА

"Асобам, удастоеным звання "Ганаровы грамадзянін Мінскай вобласці", выплачваецца штомесячнае грашовае ўзнагароджанне са сродкаў абласнога бюджэту ў памеры 4 базавых велічынь. На падставе заявы грамадзяніна штомесячныя грашовыя ўзнагароды яму могуць быць выплачаны адначасова за каляндарны год, — *так напісана ў рашэнні Мінскага абласнога Савета дэпутатаў ад 26 мая 2005 г. №130 "Аб званні "Ганаровы грамадзянін Мінскай вобласці".* — Асобы, якія ўдастоены звання "Ганаровы грамадзянін Мінскай вобласці" і якія пастаянна пражываюць за межамі Мінскай вобласці, маюць права за кошт абласнога бюджэту на кампенсацыю выдаткаў, звязаных з праездам з пастаяннага месца жыхарства ў Мінскую вобласць і назад адзін раз у год і пражываннем у гатэлі".

Марыя Захарэвіч, калі пачула пра вышэйнапісанае, да канца так і не паверыла, што разам з дыпломам і званнем атрымае яшчэ нейкую капейчыну.

*"Як толькі атрымаю, адразу раскажу*, — сказала прыемна здзіўленая Марыя Георгіеўна. — *Калі так, то, канешне, дзякуй".*

### Хто яшчэ ў спісе ганаровых грамадзян Міншчыны?

Усяго звання ўдастоены 13 чалавек. Сярод іх — Герой Беларусі **Павел Марыеў,** касманаўт **Уладзімір Кавалёнак**, акадэмік **Міхаіл Высоцкі** і іншыя.

**Марына КОКТЫШ.**

АНОНС

## *Спяваюць урачы і настаўнікі!*

*Больш за 50 гадоў Народны хор ветэранаў вайны і працы "Спадчына" аб'ядноўвае людзей, якія ўсім сэрцам любяць музыку.*

Народны хор быў заснаваны ў 1959 годзе. З тых часоў шмат людзей, якія шчыра любяць музыку, з задавальненнем далучыліся да дабрачыннай справы. Сёння ў хоры ёсць і ўрачы, і былыя педагогі, і выхавацелі, і бібліятэкары. Самым малодшым — 60, а старэйшым удзельнікам хору — за 80!

Асноўны рэпертуар — музыка акадэмічная, народныя песні. Уносяць разнастайнасць выступленні дуэтаў. Сярод удзельнікаў хору ёсць і прафесійныя музыкі, а ёсць і тыя, хто не знаёмы з музычнай граматай. Затое кожны са спевакоў укладвае душу ў песню і гадзінамі гатовы рэпеціраваць, каб слухачы чулі толькі лепшае выкананне. Пабываць на канцэрце Народнага хору можна 17 сакавіка ў Рэспубліканскім палацы культуры ветэранаў.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

РЭГІЁНЫ

## *Барысаў супраць смецця*

*Жыхары вёсак Пчэльнік, Стара-Барысаў і аграгарадка Дзямідаўка Барысаўскага раёна абураны тым, што смеццеперапрацоўчы завод збіраюцца будаваць паблізу іх дамоў.*

Згодна з новымі планамі будаўніцтва, смеццеперапрацоўчы завод плануецца ўзвесці ў кіламетры ад школы-інтэрната для дзяцей, хворых на туберкулёз, санаторыя для пенсіянераў "Бярэзіна", дзіцячага сада, школы... Незадаволены жыхары і тым, што завод будзе знаходзіцца ў 400 метрах ад прыватнай забудовы.

Раней меркавалася, што завод будзе пабудаваны недалёка ад знікаючай вёскі Ракаўцы. Чаму планы былі зменены, мясцовым жыхарам не паведамілі.

## *Ваўкавыскія каровы — аматары джазу*

*855 кароў з новай фермы "Львоўка" штодня даюць малако пад акампанемент твораў Шапэна і джазавых майстроў.*

Музыка гучыць на ферме толькі падчас дойкі. Справа ў тым, што так каровам прасцей прызвычаіцца да новага дома. Шапэн і джаз дапамагаюць буронкам зняць стрэс.

## *1150 добрых спраў*

*Менавіта столькі карысных учынкаў збіраюцца зрабіць палачане да юбілею свайго горада.*

Добрымі справамі будуць лічыцца розныя ўчынкі: творчыя конкурсы, спартыўныя спаборніцтвы, грашовая падтрымка. Так, напрыклад, моладзь збярэ грошы на будаўніцтва дзіцячай пляцоўкі ў адным з двароў горада. Юбілейныя мерапрыемствы ў гонар 1150-годдзя пройдуць у Полацку з 25 мая да 5 чэрвеня.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ПОДЫУМ

# Колькі каштуюць мужчыны з мікрафонам для ўдзельніц конкурсу «Міс Беларусь»

*У якасці спецыяльных гасцей на здымкі паўфінальнага шоу нацыянальнага конкурсу прыгажосці "Міс Беларусь-2012" запрошаны толькі мужчыны.*




Графік здымкаў паўфіналу расцягнецца на цэлы працоўны тыдзень! З панядзелка па пятніцу ў Палацы спорту кожны вечар гучыць музыка і збіраюцца прыгажуні. Кожная з удзельніц паўфіналу павінна паказаць сябе падчас выканання папулярнай песні. Спяваюць толькі мужчыны — гэта добрая традыцыя конкурсу прыгажосці.

Зоркамі паўфіналаў будуць гурты "Litesound", "Nuteki", "Тяни-Толкай", "Стокс", "Атлантыка". Нягледзячы на крызіс, знайшлося месца і для замежных зорак, праўда, не першай і не другой велічыні. Спяваць для беларускіх прыгажунь будуць расійскія выканаўцы **Прохар Шаляпін, Найк Барзоў** і **Улад Тапалаў**. Чаму яны, калі ў Беларусі засталося яшчэ шмат цудоўных мужчын?

*"Нашых усё роўна больш,* — тлумачыць спадарыня Мікульская. — *Замежных гасцей толькі трое. Іх, як і нашых музыкаў, запрасілі для таго, каб дзяўчаты змаглі праявіць сябе ў нумары пад папулярную песню".*

Выбіраць, з кім кожная з 28 прыгажунь будзе выходзіць на сцэну, будуць арганізатары. Калі, напрыклад, дастанецца творчы хуліган Найк Барзоў, то нават самым рамантычным удзельніцам конкурсу давядзецца шукаць сябе ў новым амплуа.

### ДАРЭЧЫ

## *Прохар Шаляпін «каштуе» каля 1,5 тысячы долараў*

У крызіс не прынята выкідваць грошы на вецер. Дбайны гаспадар падлічыць кожную капейчыну, а прадстаўнікі АНТ заўжды быццам бы ганарыліся тым, што свае праекты тэлеканал фінансуе самастойна.

Не так даўно нават А.Лукашэнка падчас разбору палётаў пасля "ЕўраФэсту" засяродзіў увагу на ганарарах замежных зорак: маўляў, назапрашалі дарагіх гасцей, але ж замест іх маглі б выдатна праспяваць і зоркі беларускай эстрады.

Таму "Народная Воля" вырашыла хоць прыкладна падлічыць, колькі зусім нялішніх грошай пайшло на ганарары замежным выканаўцам.

Згодна з падлікамі калег з расійскіх СМІ, **Прохар Шаляпін** — эканомны варыянт. Як і большасць былых "фабрыкантаў", ён атрымлівае за выступленне каля 1,5 тысячы долараў.

На **Найка Барзова** прыйдзецца выдаткаваць суму ад 2 да 5 тысяч долараў. Былы ўдзельнік гурта "Смэш" **Улад Тапалаў** возьме за выступленне прыкладна столькі ж. Заўважым, гэты ганарар куды ніжэйшы, чым такса яго былога калегі **Сяргея Лазарава**, які выступаў на конкурсе "Міс Беларусь-2010".

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ЧУЛІ?

## *Кантракт сарваўся?*

Больш за тры месяцы жаночая сборная па баскетболе застаецца без галоўнага трэнера. І, падобна, што гэты час зацягнецца. Дэлегацыя Федэрацыі баскетбола вярнулася з Літвы без кантракта.

Нагадаем, што галоўны прэтэндэнт на пасаду галоўнага трэнера — літовец Рымантас Грыгас. Кандыдатура 49-гадовага трэнера была прызнана аптымальнай у пашыраным спісе, які ўключаў каля 15 прозвішчаў. Планавалася, што да 8 Сакавіка ўдасца зрабіць падарунак жаночай зборнай. Напярэдадні ў Літву паляцела беларуская дэлегацыя. Але не атрымалася...

*"На дадзены момант пакуль яшчэ не падпісалі. Пакуль перамовы працягваюцца",* — паведаміла "Еўрарадыё" выканаўчы дырэктар Федэрацыі баскетбола **Таццяна Мацко.**



ШАХМАТЫ

## Задача Н.Бельчикова

**Белые:** Крd2, Фf6, Ла4, Сb5 (4).
**Черные:** Крd5, Кe2, Кg6 (3).
**Мат в 2 хода.**



Публикуем двухходовую задачу-миниатюру, которую прислал наш читатель из Борисова, известный белорусский шахматный композитор, мастер спорта СССР Николай Бельчиков. Попробуйте найти ее решение. Свои ответы присылайте по адресу: **220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная Воля", "Шахматы".**

## Два чемпионата

В Минске прошли чемпионаты Беларуси по шахматам среди мужчин и женщин 2012 года. В мужском турнире приняли участие 12 спортсменов, среди которых было 5 международных гроссмейстеров и 5 мастеров. В напряженной борьбе чемпионский титул завоевал минчанин гроссмейстер Сергей Жигалко, набравший 8 очков из 11 возможных. Весь турнир победитель провел без единого поражения. Всего на пол-очка от чемпиона отстали гроссмейстер Андрей Жигалко и 17-летний мастер спорта Владислав Ковалев. По дополнительным показателям серебряную медаль выиграл Жигалко. Ковалеву досталась бронзовая награда. Успех Владислава Ковалева — главная сенсация турнира. Юный шахматист всего пол-очка недобрал до гроссмейстерской нормы. Четвертым на финише, набрав 7 очков, был 21-летний гроссмейстер Кирилл Ступак (Минск). Такой же итог у многоопытного гроссмейстера, неоднократного чемпиона страны Алексея Федорова (Могилев) — пятое место.

В женском чемпионате Беларуси приняли участие 10 шахматисток. Главной сенсацией стало выступление 17-летней минчанки Татьяны Рево. Весь турнир она провела в наступательном стиле, одержав наибольшее число побед — восемь в девяти встречах. В атакующем стиле Татьяна выиграла важную партию у неоднократной чемпионки Беларуси гроссмейстера из Бреста Анны Шаревич.

## Т.Рево—А.Шаревич
## Сицилианская защита

1.e4 c5 2.Kf3 e6 3.d4 cd 4.K:d4 a6 5.Cd3 Фc7 6.o-o Ke7 7.Ce3 Kbc6 8.c4 Kg6 9.f4 K:d4 10.C:d4 K:f4 11.Kph1 K:d3 12.Ф:d3 f6 13.Kc3 Cd6 14.e5 fe 15.Ce3 Ce7 16.Ke4 b6 17.Лad1 Фc6 18.Cg5 C:g5 19.Kd6+ Kpd8 20.Kf7+ Kpc7 21.K:e5 Фc5 22.K:d7 Фe7 23.Лf7! Ф:f7 24.Фd6+ Kpd8 25.Ke5+ Kpe8 26.Фc6+. **Черные сдались.**

В борьбе за чемпионский титул основной соперницей Рево была международный мастер, чемпионка мира среди девушек в возрасте до 16 лет Анастасия Зезюлькина. Все решала личная встреча лидеров, в которой верх взяла Зезюлькина. В итоге она завоевала звание чемпионки с результатом 8 очков из 9 возможных. Серебро у Татьяны Рево — 8 очков, бронзовую медаль выиграла Анна Шаревич — 6 очков. Следует отметить успех 17-летней минчанки Ланиты Стецко, занявшей четвертое место, — 6 очков.

КРЫЖАВАНКА

# «О, вясна! О, вясна — чараўніца!»



**Па гарызанталі:** 3."О, ...! О, ... — чараўніца!\\Ты прыйшла! Ты з'явілася зноў" — з верша Т.Дзям'янавай "О, вясна!". 4.У сакавіку туман — у жніво дождж ...(прык.). 6. "Маці-... радзіла іх\\Ад першых пацалункаў сонца" — з верша Ул.Жылкі "Пралескі". 11."Грай, грай, ...! Грай, грай, вясёлая!" — з верша Я.Купалы "Вясна". 12."І ... сваёй зялёнай дзюбай\\Грудок праб'е, вітаючы вясну" - з верша "Вясновы парастак" Рыгора Крушыны. 13."Смела, ... лятайце дома,\\віце гнёзды бліжэй каля нас" — з верша Л.Геніюш "Буслы". 16."Снежнаю мяцеліцай\\сыплецца надзеяю\\цвет — ... вішнёвая" — з верша Н.Арсенневай "Вясновая калыханка". 17.Раструбы ў пальчатках. 18."Нагрэцца сеў на ...\\Абветраны бацян" — з верша Ул.Мазго "Вясновае". 20.Тое, што і музыкант (разм.). 23."... — вясна" — верш Ул.Някляева ("Напрадвесні плачуць ледзяшы,\\Ручаіны плачуць напрадвесні"). 27.Званне, якое прысвойваецца буйнейшым вучоным, мастакам і інш. 28."... для мяне — гэта белыя зімы\\і вясновы бурлівы разліў" — з верша "Мая Беларусь" Я.Золака. Сёлета — 100 год з дня яго нараджэння. 29.Цыкл мастацкіх твораў аднаго жанру. 30."... мой, гаю, акраса вясновай зямлі" — з верша М.Скоблы "Красавік па дарозе ў Заслаўе". 31."Аб ёй мне баюць ...-сны,\\Вясеннія праталіны" — з верша "Спадчына" Я.Купалы. Сёлета — 130 год з дня нараджэння песняра.

**Па вертыкалі:** 1."Прыходзі ж, ...-радасць,\\Буйна росамі заззяй" — з паэмы "Сымон-музыка" Я.Коласа, 130-год з дня нараджэння якога сёлета адзначыць наша краіна. 2.Тое, што і пластычнасць. 5.Прыстасаванне ў плузе для пераварочвання пласта зямлі. 7."І ... ля воблакаў спявае,\\І пралеска сіняя цвіце" — з верша В.Гардзея "Жаўрукамі далеч палявая". 8.Забарона на што-небудзь. 9."... вясновую песню спявае" — з верша Ю.Гушчынскай "Дзень добры, вясна!". 10.На ... пайшла зіма да ракі (прык.). Свята птушак Саракі адзначалася 22 сакавіка. 14."Вясновай ласкай грэе\\І так маё ..." — з верша "Не будзь ніколі іншым" М.Танка. Сёлета — 100 год з дня нараджэння паэта. 15."Наша мова — бярозавік весні,\\... жаўруковае песні" — з верша Я.Золака "Наша мова". 18."Сакавік, сакавік —\\Снег вывозіць грузавік.\\Прамакаюць боцікі,\\Расцвітаюць ..." — з верша С.Грахоўскага "Сакавік". 19."Сакавік —\\Вясны ... —\\Праразаецца пакрысе" — з верша А.Грачанікава "Капяжы...". 21. Тэорыя аратарскага мастацтва. 22.На Ляксея пакідай сані, рыхтуй ... (прык.). Свята Аляксея Цёплага адзначалася 30 сакавіка. 24.Прыткая ... берагі падрывае (прык.). 25."Дваццаць пятага сакавіка —\\Наша ... .\\Пароль\\І прысяга" — з верша Р.Барадуліна "25 сакавіка". 26."..., ..., небасхіл,\\Хустка васільковая!\\Пакацілася клубком\\Сонейка вясновае" — з верша Л.Полазавай "Вясна".

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*

**Па гарызанталі:** 3.Вясна. 4.Пан. 6.Зямля. 11.Жалеечка. 12.Парастак. 13.Буслікі. 16.Краса. 17.Крагі. 18.Комін. 20.Ігрок. 23.Красуня. 27.Акадэмік. 28.Беларусь. 29.Нізка. 30.Гай. 31.Казкі.
**Па вертыкалі:** 1.Вясенька. 2.Пластыка. 5.Адвал. 7.Жаўрук. 8.Табу. 9.Шпак. 10.Сараки. 14.Каханне. 15.Аксаміт. 18.Коцікі. 19.Маладзік. 21.Рыторыка. 22.Калёсы. 24.Рака. 25.Свята. 26.Неба.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл. (017) 3286871.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906**
**nv@promedia.by**
**http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya**

ISSN 2071-9647

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 12.03.2012 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 28500 экз. Заказ №1120.**